# Падзеі ◊ Здарэнні ◊ Факты ◊ Каментарыі ◊ Весткі

## СВЕТ

### ЛЮДАБОЙЧАЯ ІНТЭРВЕНЦЫЯ

27 ліпеня г.г. Міністэрства замежных спраў ДРВ апублікавала мемарандум на тэму новай эскалацыі амерыканскай вайны супраць Дэмакратычнай Рэспублікі В'етнам.

Ад пачатку красавіка г.г., гаворыцца ў мемарандуме, адміністрацыя ЗША павялічыла бамбардзіроўкі Паўночнага В'етнама. У след за гэтым наступіла замініраванне і блакада партоў ДРВ. Ад пачатку красавіка па першую палову ліпеня г.г. авіяцыя ЗША зрабіла больш 20 тыс. баявых палётаў над Паўночным В'етнамам. За гэты перыяд адбылося каля 5 тыс. налётаў.

Бамбардзіроўкі і абстрэл з караблёў VII Флота тэрыторыі ДРВ сведчыць аб людабойчым характары гэтых атак, а мэта іх — знішчэнне як найбольшай колькасці людзей.

### ЛІКВІДАЦЫЯ УСТАШСКІХ ДЫВЕРСАНТАЎ

Саюзны сакратар па ўнутраных справах Югаславіі паведаміў, што органы бяспекі знішчылі групу ўсташскіх дыверсантаў і тэрарыстаў, закінутых нядаўна ў краіну. З 19 чалавек, якія ўваходзілі ў састаў гэтай групы, 17 ліквідавана.

У паведамленні адзначаецца, што актыўную дапамогу ў барацьбе са злачынцамі аказала насельніцтва тых раёнаў, у якіх дзейнічалі тэрарысты.

### ФІНАНСАВЫЯ ЦЯЖКАСЦІ

Згодна з паведамленнем міністра фінансаў ЗША, у мінулым фінансавым годзе дэфіцыт бюджэту федэральнага ўрада склаў 23 мільярды долараў. Падобны дэфіцыт, як указваюць эканамічныя аглядальнікі, выкліканы ў асноўным пастаянным застоем у эканоміцы. Амерыканскі міністр фінансаў прызнаў, што ў гэтым фінансавым годзе дэфіцыт бюджэта можа павялічыцца да 27 мільярдаў долараў.

### ДАЛЕЙШАЯ ДАПАМОГА

Ад 17 да 27 ліпеня прабывала ў Савецкім Саюзе дэлегацыя Арганізацыі вызвалення Палесціны са старшынёй Выканаўчага камітэта Ярысам Арафатам.

Дэлегацыя АВП падкрэсліла, што дапамога, якую аказвае Савецкі Саюз арабскім народам, у тым ліку і народу Палесціны, мае важнае значэнне для паспяховай барацьбы арабаў з ізраільскай агрэсіяй, барацьбы за свабоду і грамадскі прагрэс.

### ПЕРШАЕ ПАРАЖЭННЕ

Італьянскі ўрад на чале з Андрэоці ў часе свайго кароткага існавання атрымаў паражэнне ў парламенце. Прынятая парламентам, супраць становішча ўрада, папраўка да закона аб пенсіях прадбачвае павелічэнне ў параўнанні з папярэднімі планамі на 135 мільярдаў ліраў у год пенсіі пенсіянерам, якія дагэтуль мелі найніжэйшыя пенсіі.

Папраўка была запрапанавана камуністамі і сацыялістамі.

### САМАГУБСТВЫ

ФРГ залічваюць да краін з найвялікшай колькасцю самагубстваў. У год адбірае сабе тут жыццё 13.000 чалавек.

Апрача гэтага некалькі тысяч чалавек не дасягае сваёй самагубчай мэты і ў асноўным аплочвае гэта здароўем.

(АК)

## БССР

### ПРЫЁМ У МІНСКУ

Агенцтва БЕЛТА паведамляе: з выпадку нацыянальнага свята адраджэння Польшчы генеральны консул Польскай Народнай Рэспублікі ў Мінску А. Валяшак 21 ліпеня наладзіў прыём. На прыёме прысутнічалі кіраўнік дэлегацыі Таварыства польска-савецкай дружбы, якая прыбыла ў Мінск для ўдзелу ў Днях савецка - польскай дружбы і польскай культуры ў БССР, намеснік загадчыка аддзела культуры ЦК Польскай аб'яднанай рабочай партыі Я. Касак, члены дэлегацыі — пісьменнік, дэпутат сейма В. Жукроўскі, член прэзідыума Таварыства польска-савецкай дружбы С. Вішнеўскі, а таксама дэлегацыя работнікаў польскага бюро падарожжаў «Орбіс».

(...) Прыём прайшоў у цёплай, сяброўскай абстаноўцы.

### ПОЛЬСКІЯ ДНІ

У гарадах і вёсках Беларусі — у сувязі з нашым ліпеньскім святам — праходзілі Дні савецка-польскай дружбы і польскай культуры.

У Мінску ў Палацы культуры прафсаюзаў была наладжана выстаўка вырабаў народнай творчасці ПНР. Экспанавана 250 народных вырабаў, сярод якіх — дываны і габелены, нацыянальныя ўборы, усемагчымыя вырабы з дрэва, лазы, саломы, скуры, металу, паперы, дзесяткі лялек-сувеніраў.

✲

Наведвальнікі Акруговага дома афіцэраў у Мінску мелі магчымасць пазнаёміцца з кнігамі выдавецтва Міністэрства нацыянальнай абароны Польскай Народнай Рэспублікі і польскім плакатам.

Тут выступіў польскі пісьменнік Войцех Жукроўскі, які расказаў аб дзейнасці выдавецтва, кніжкі якога знаходзіліся перад вачыма прысутных.

✲

У Мінску дэманструецца выстаўка жывапісу і графікі «Савецкі Саюз вачыма польскіх мастакоў». На выстаўцы паказана 80 работ польскіх майстроў выяўленчага мастацтва. Яна дае багатае ўяўленне аб тым, як успрымаюць польскія мастакі жыццё і працу савецкіх людзей.

✲

Гомельская абласная бібліятэка правяла тэматычны вечар «Нацыянальнае свята Польскай Народнай Рэспублікі». На вечары быў зроблены агляд новай польскай літаратуры, выступілі чытачы, якія пабывалі ў ПНР.

✲

Магілёўская абласная бібліятэка наладзіла выстаўку «Польская Народная Рэспубліка», рыхтуе вечар польскай паэзіі.

✲

Беларускае тэлебачанне правяло тэлевізійны фестываль польскіх дакументальных фільмаў. Прэм'ерай гэтага фестывалю стаў фільм «Вітаем вас», які расказвае аб гасцінным народзе Польшчы, аб прыгажосці і багацці старажытнай польскай зямлі.

✲

У кніжных магазінах Мінска і іншых гарадоў можна атрымаць цяпер навінкі польскіх выдавецтваў.

(вр)

## ПОЛЬШЧА

### ПАСЯДЖЭННЕ ПАЛІТБЮРО

25 ліпеня адбылося пасяджэнне Палітбюро ЦК ПАРП, на якім была зроблена ўсебаковая ацэнка выканання Нацыянальнага гаспадарчага плана за першае паўгоддзе г.г. На добрыя вынікі вялікі ўплыў мела большая прадукцыйная актыўнасць рабочых калектываў і працэсы інтэнсіфікацыі сельскагаспадарчай прадукцыі. Паспяховыя вынікі за першае паўгоддзе з'яўляюцца прадпасылкамі карысных прагнозаў на другое паўгоддзе.

Апрача таго, Палітбюро абмеркавала і прыняло праграму дзеяння ў напрамку паляпшэння публічнага парадку ў краіне.

### ВІЗІТ Э. ГЕРКА

26 ліпеня І сакратар ЦК ПАРП Э. Герэк наведаў Люблінічыну. Правёў ён сустрэчу з будаўнічым калектывам фабрыкі абутку ў Хэлме Любэльскім. І сакратар ЦК ПАРП цікавіўся перспектывамі развіцця гэтай фабрыкі. На сустрэчы з членамі Экзекутывы Павятовага камітэта ПАРП Э. Герэк знаёміўся з найважнейшымі праблемамі гэтага 40-тысячнага горада і яго прамысловымі аб'ектамі. Затым першы сакратар наведаў паасобных перадавых гаспадароў і некалькі кааператываў. Цікавіўся ён актуальнымі эканамічна-грамадскімі праблемамі і перспектывамі развіцця гэтага рэгіёну.

### ПАСЯДЖЭННЕ ПРЭЗІДЫУМА ЎРАДА

28 ліпеня адбылося пасяджэнне Прэзідыума ўрада, на якім была разгледжана праблема ўпарадкавання сістэмы права. Другой важнейшай праблемай, якую абмеркаваў Прэзідыум ўрада, быў праект далейшага развіцця электрыфікацыі сельскай гаспадаркі.

### СУСТРЭЧА Э. ГЕРКА І П. ЯРАШЭВІЧА

24 ліпеня І сакратар ЦК ПАРП Э. Герэк і старшыня Рады Міністраў П. Ярашэвіч сустрэліся з прадстаўнікамі чыгуначнікаў. На сустрэчы прадстаўнікі найвышэйшых палітычных і адміністрацыйных улад праінфармавалі чыгуначнікаў аб далейшай мадэрнізацыі ПКП і аб паляпшэнні сацыяльна-бытавых умоў рабочых ПКП.

### СУСТРЭЧЫ Г. ЯБЛОНСКАГА

24 ліпеня старшыня Рады Дзяржавы Г. Яблонскі правёў сустрэчу з моладдзю і паланійнымі дзеячамі з розных бакоў свету. Сустрэча прайшла ў сардэчнай атмасферы. На заканчэнне яе госці знаёміліся з Бельведэрам.

✲

26 ліпеня Г. Яблонскі наведаў Варшаўскае ваяводства, у якім правёў сустрэчы з рабочымі МБМ і мясцовымі сялянамі. Старшыня Рады Дзяржавы цікавіўся ўборкай збожжавых культур у ПГР-ах, кааператывах, сельскагаспадарчых гуртках і ў паасобных сялян Мазоўша.

### НОВЫ ПЕРАХОД МЯЖЫ

1 жніўня быў адкрыты новы пераход мяжы ў Германскую Дэмакратычную Рэспубліку ў ваколіцы Сяняўкі Згажэлецкага павету. Пераход будзе адкрыты цэлыя суткі.

(ця)

## ВАЯВОДСТВА

### ТАВ. ЗДЗІСЛАЎ КУРОЎСКІ СЯРОД МОЛАДЗІ

26 ліпеня гэтага года І сакратар ВК ПАРП у Беластоку З. Куроўскі разам з А. Кіцманам — дырэктарам Беластоцкага будаўнічага трэсту, В. Вацлавікам — І сакратаром ПК ПАРП у Аўгустове, К. Пятроўскім — намеснікам кіраўніка аддзела прапаганды ВК ПАРП у Беластоку і Б. Заслонам — старшынёй ВП ЗМС у Беластоку наведаў вакацыйнае студэнцкае будаўнічае прадпрыемства, якое працуе ў Аўгустоўскім павеце.

Тав. З. Куроўскі пазнаёміўся з ходам будаўнічых прац, сацыяльнымі ўмовамі, у якіх працуюць студэнты, вынікамі і арганізацыяй працы. Затым тав. З. Куроўскі агледзеў будову новага аб'екту, які ўзводзіцца ў навучальна-адпачынкавым цэнтры ЗМС у Борках коштам 11 мільёнаў злотых. Адбылося таксама спатканне тав. З. Куроўскага з рабочай моладдзю Беластока, якая прабывае на адпачынку ў летнім лагеры ў Борках.

### НАД СПРАВАМІ ГАСПАДАРКІ

Адно з вядучых прамысловых прадпрыемстваў Беласточчыны — фабрыка «Ухвыты» свой вытворчы план на першае паўгоддзе гэтага года выканала ў 104,8 прац., у тым ліку ў 111,4 прац. рэалізавала заданні па экспарту (прададзена заграніцу прадукцыі вартасцю каля 8 мільёнаў дэвізовых злотых). Гэтых паказальных вынікаў рабочы калектыў «Ухвытаў» дабіўся ў асноўным дзякуючы павышэнню прадукцыйнасці працы.

Цяпер перад беластоцкімі «Ухвытамі» адкрываюцца шырокія перспектывы далейшага развіцця — паміж нашай краінай і СССР падпісана доўгатэрміновае гандлёвае пагадненне на пастаўку ў брацкі Савецкі Саюз вырабаў гэтай фабрыкі.

Справамі эканомікі фабрыкі і гаспадарчага развіцця ўсяго нашага краю займалася 27 ліпеня бягучага года канферэнцыя рабочага актыву «Ухвытаў», у працы якой прынялі ўдзел міністр фінансаў ПНР Стэфан Ендрыхоўскі, сакратар Ваяводскага камітэта ПАРП у Беластоку Міхал Недзведзь, кіраўнік гаспадарчых устаноў нашага ваяводства.

### НОВАЕ ПРАДПРЫЕМСТВА ЎСТУПІЛА Ў СТРОЙ

У Моньках пачала працаваць новая сучасная малачарня, пабудаваная коштам 75 мільёнаў злотых. У часе, калі яна дасягне планаванай магутнасці, у малачарні будзе працаваць 170 чалавек, а прадукцыя за суткі складзе 105 тысяч літраў спажывецкага малака, 5,7 тоны сыроў, 2 тоны малака ў парашку, 4 тоны масла, значная колькасць іншых малочных прадуктаў.

### КАМБІНАТ У КВЕТКАХ

Вядомы тэкстыльны камбінат «Фасты» ў апошні час набыў славу фабрыкі ў кветках і зелені. Па закліку партыйнай і маладзёжнай арганізацый камбіната рабочыя, а асабліва моладзь, актыўна прыступілі да грамадскага пачыну ў заляненні і ўпрыгожанні свайго прадпрыемства. Кожны працаўнік камбіната клапоціцца пра эстэтыку і чысціню свайго рабочага месца, адпаведна сучасным вымаганням апрацавана візуальная інфармацыя, вакол будынкаў камбіната робяцца скверыкі, клумбы з кветкамі, а ўвосень будуць пасаджаны сотні дэкаратыўных дрэў.

(мг)




NIEDZIELA 6.VIII.

8.10 Program dnia. 8.15 „Przypominamy, radzimy". 8.35 „Nowoczesność w domu i zagrodzie". 9.00 „Cafe Rose" — film TVP („Stawka większa niż życie"). 10.15 „Tatuś od święta" — film fab. czechosł. 11.20 „Melanezja" (II) — rep. film. („W cztery świata strony"). 12.10 XI Festiwal Moniuszkowski w Kudowie Zdroju — rep. film. 12.40 Dziennik. 12.55 „Przemiany". 13.50 Dla dzieci: J. Wilkowski — „Niebieski migdał" („Ula i świat"). 14.15 „Skansen nad Narwią" („Wielcy znani i nieznani") — Adam Chętnik. 14.50 „Z ludowej szkatuły" — program folklorystyczny. 15.20 „Monachium przed Olimpiadą". 15.50 „U progu Olimpiady" („W starym kinie"). 16.50 „Estradowe spotkania". 17.55 Sprawozdanie sportowe. 18.45 „Brzegi lepkie od ropy" — film dok. ang. („Świat, który nie może zaginąć"). 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Ostatni lot Albatrosa" — film radz. odc. IV (ostatni). 21.10 PKF. 21.20 „Uśmiech i piosenka hiszpańska" czyli „Romanse o miłości i zdradzie"). 22.05 Magazyn sportowy.

PONIEDZIAŁEK 7.VIII.

16.40 Program dnia. 16.45 Dziennik. 17.05 „Świerszcz, wieczorny muzykant" — film jap. 17.25 „Echo stadionu". 17.50 „Idź tam gdzie są ryby" — film dok. jap. 18.25 „Trzy tysiąclecia" — o sztuce meksykańskiej od czasów hiszpańskich — film węg. 18.45 „Eureka". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Letni Przegląd Teatru TV: F. Dostojewski — „Bracia Karamazow". 22.45 Dziennik.

WTOREK 8.VIII.

10.00 „Nad jeziorem" — film fab. radz. 16.40 Program dnia. 16.45 Dziennik. 16.55 „Oferty". 17.15 „Zakładowy weekend". 17.45 Ekran Młodych. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Nad jeziorem" — film fab. radz. 22.45 „Kontakty". 23.15 Dziennik.

ŚRODA 9.VIII.

10.00 „Kobieta w bieli" — film franc. odc. IV. 16.40 Program dnia. 16.45 Dziennik. 16.55 „Teleferie". 17.30 Sprawozdanie z międzypaństwowego spotkania w lekkiej atletyce Polska — Francja. 19.00 TV Kurier Warszawski. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Kobieta w bieli" — film franc. odc. IV. 20.55 PKF. 21.05 „Świat i Polska". 21.35 J. S. Bach — Kantata RWV 201 — „Spór Febusa z Panem". 22.25 Dziennik. Wiadomości sportowe 22.45 „Wspomnienia olimpijskie".

CZWARTEK 10.VIII.

16.40 Program dnia. 16.45 Dziennik. 16.55 „Perspektywy techniki". 17.30 Sprawozdanie z międzypaństwowego spotkania w lekkiej atletyce Polska — Francja. 19.00 TV Kurier Kielecki. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 „Przypominamy, radzimy". 20.05 „Miodowy miesiąc" — film fab. ang. 21.25 „Ekspres nr 6". 21.50 Polski Film Dokumentalny — filmy Festiwalu Krakowskiego. 22.30 Dziennik. Wiadomości sportowe.

PIĄTEK 11.VIII.

10.00 „Późne popołudnie" — film fab. pol. 11.30 „Zatoka Wielorybów" film dok. („Człowiek i morze"). 16.30 Program dnia. 16.35 Dziennik. 16.45 ITP — magazyn. 16.55 „Teleferie". 17.50 Magazyn Medyczny. 18.20 TV Kurier Mazowiecki. 18.40 „Cesarz Wiluś i Zielony Balonik" — felieton E. Lipińskiego („Historia polskiej karykatury"). 19.00 „Turystyka i wypoczynek". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Zatoka Wielorybów" — film dok. („Człowiek i morze"). 20.30 „Kraj". 21.10 Teatr TV: Beaumarchais — „Wesele Figara". 22.35 Dziennik.

SOBOTA 12.VIII.

10.00 „Miquette i jej matka" — film fab. franc. 11.35 Przerwa. 16.20 Program dnia. 16.35 Program I proponuje. 16.45 Dziennik TV. 16.55 „Nie tylko dla pań". 17.15 „Z kamerą wśród zwierząt". 17.45 „Tadè" — film Tele-Aru. 18.05 „Drogami współczesności" — rep. 18.40 „Pegaz". 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.15 „Miquette i jej matka" — film fab. franc. 21.55 Dziennik. Wiadomości sportowe. 22.20 „W sobotę wieczór" — włoski program rozrywkowy.




**Piątek, 4 sierpnia**

8.15 Film fab. 10.05 Śpiewa P. Lisicjan. 16.00 Festiwal TV. Ukraina. 17.25 Film fab. 19.30 Festiwal TV. Ukraina.

**Sobota, 5 sierpnia**

9.30 Filmy animowane. 10.30 Przegląd międzynarodowy. 10.45 Szkatułka muzyczna. 11.00 W. Majakowski. 12.15 Film fab. 14.20 Spotkania muzyczne. 16.10 W świecie zwierząt. 17.00 Film fab. 18.00 Koncert.

**Niedziela, 6 sierpnia**

7.30 Filmy dokument. 8.15 Kiosk muzyczny. 9.00 Koncert. 9.40 Białe i czarne. 10.00 Film animowany. 11.05 Nowiny. 13.10 Dla żołnierzy. 13.40 Nowiny dnia. 13.50 Filmy animowane. 14.20 Światła cyrku. 15.00 Klub filmowy. 16.25 Film fab. 18.00 Piłka nożna. Szwecja — ZSRR. 21.10 Program młodzieżowy.

# ДЗЕЦІ З ГАРКАВІЧ

Ехалі ў Гаркавічы. Каня паганяў дзядзька.

— Горача! — маці зняла з плячэй хусту, яе чорны колер пасівеў ад пылу.

Бацька гутарыў з дзядзькам: — ...Кажаш, на Пятра і Паўла будзе па ўсім?..

Пясок сыпаўся з колаў, трашчаў. Ля Паповай гары блішчэла азерца, вострa блісkалі купы аеру.

— Піць хочацца, — мне захацелася піць. Маці заглянула ў вочы, адвярнулася і страсянула хусту над сцежкаю; па тоўстай яе шыі сцякаў пот.

— Паганяйце каня, мужчыны! Няма чым дыхаць... — складвала хусту роўненька, рог з рогам. — Бацьку, не рассядайся так! — папракнула бацьку; ён забываў, што не адзін.

— Пясок па калодкі, — адказаў дзядзька. — Но-о, Буланая! — падагнаў кабылу... — ...На Пятра і Паўла будзе па ўсім... — тлумачыў ён бацьку пшанічным голасам.

— Чаго табе цесна?! — запёкся бацька. Маці не адказала. — ...Да Пятра і Паўла, ого, не паспеюць...

Фурманка загрукатала на каменнях. Колы з жалезнымі абручамі ляскаталі, воз трымаўся. Моцна падкідвала, маці ўхапілася за гнаяўку і за бацьку, я — за клыніцу, ушчаперыўся.

Перад канём расступіліся людзі, якіясьці дзеці. Большы хлопец — лысы, выгалены да скуры.

— Дзеці з Гаркавіч, — сказала маці.

— Але, — дзядзька невядома чаму падтакнуў і заціх. Напэўна не глядзеў на іх.

— Сядайце, хлопцы, — загаварыў да іх бацька. Менавіта, загаварыў, а не сказаў. Усё роўна як бы: «Ідзеце, хлопцы?» Каб пачуць: «Ідзем».

Гэта адгануў лысы, зацяты:

— Не трэба, блізка. Дзякуем.

Маці аглянулася наперад. Хіба здзівілася:

— Даязджаем да Гаркавіч!

— Чаго хочаш: сем кіламетраў, — сказаў бацька.

— І гэтыя дзеці дзень у дзень хо- дзяць у школу аж у Крынкі!? — маці паспачувала ім, але я адчуў папрок мне: школу маю на месцы, а вучуся напэўна горш ад іх, гэтых на дарозе.

— Ага... — дзядзька штосьці гаварыў.

Я прыкмеціў, што за плячыма хлопцаў мяшочкі, вуглаватыя з кніжкамі і сшыткамі.

Не спадабаліся яны мне.

Ішлі спакойным крокам, зайшлі на конскі след, каб не падбіцца, босыя. Меншыя і меншыя, зніклі.

*Сакрат Яновіч*


# БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 164


I

Над святою вадою — вербы-літаніі,
ціша у цішы, гранне у гранні.
Усё сёння далёкае блізкім нам стала,
сябе нам замала і свету замала.
І ў свеце і ў нас тое ж самае гранне,
над намі павіслі вербы-літаніі.

II

*Колькі ж часу яшчэ у тапольі*
*сонца нюхаць*
*зялёным носам.*
*Красавік толькі выйшаў у поле,*
*у росы.*
*у дрэвах і ў глебе нясмеласць —*
*сарамлівасць святой мадонны,*
*падстаўляе зямля сваё цела*
*пад промень.*
*Асцярожнасць — з зімы суровай,*
*што забралі зямлі адвагу —*
*адхіліць вясна замовай,*
*магіяй.*

Алесь Барскі



## АСТАТНІ ЗВАНОК

Астатні званок
прагучаў
так ціха,
жаласна,
як бы
чагосьці шкадаваў,
не, ён не шкадуе,
гэта
у душы маёй
збіраецца
жаль.
Званок нармальна
звоніць,
ён верыць,
што на
другі год
нас сустрэне зноў.
Я таксама веру,
але мяне
смуціць
двухмесячная
разлука.

**Ніна Гаўрылюк**

*РЭЛЯЦЫЯ З ВЭСІЭЛЯ*

у молодэі
добрэ нас прынялі
усёго на столах было
я мусіт з 28 кілішкаў выпіў
і нэ быў піяны
але Петька
бачу Петька
ка - пе
ка - петь
ка - ка
потым музыкі былі
а бодай іх
Лектроны здаецьця грэлі
нуй
ка - кррр
ка - ака
лі - лі
як я пушоў
в кружок молодых
кажу тобіэ
доломодіў
а дэж
скачут як холера
я за імі
30 ліет
туолько
фрррр
нуй заводолёны
а потым
як мы шчэ хлёбонулі
хлёб - да
нуууу - да
сонце вставало
а я думаў зайшло

на трэті дэнь,
прывэзлі мэнэ Ф'ятом.

*Зося Сачко*

*КАМЕНЬ*

*звычайны камень палявы*
*матэрыі згустак, неразбіты атам*
*накшталт чалавечай галавы*
*я ўбачыў на дарозе каля хаты*

*лазілі па ім нікчэмы*
*дзень і ноч з яго цякло*
*быццам нейкі філасофскі тэмы*
*са шчылін патрэсканага лоба*
*струменіліся ў святло*

*у гэты час,*
*прамовіў ён —*
*з мільёнаў вас*
*такіх як вы*
*за гадоў мільён*
*быць можа*
*створыцца*
*такі вось*
*камень*
*палявы.*

Я. Чыквін

*БУДЗЕ ЖНІВО*

*Каласы*
*цяжка кладуцца на зямлю.*
*Хутка*
*будуць стаяць снапы акуратна.*
*Каса*
*заблішчыць ў жыце залацістa.*
*Яна*
*роўненька ўсё збожжа скосіць,*
*Поле*
*астанецца пустое, ціхае, чыстае.*
*Вецер*
*ў каласах не загуляе,*
*Дождж*
*ў каласах не зашуміць,*
*Пот*
*салоны увойдзе ў зямлю,*
*Хлеб*
*затое будзе для ўсіх.*

Ірэна Баравік

# ДЭБЮТ • ДЭБЮТ • ДЭБЮТ

ІРЭНА ПУЧКО



Жыву ў вёсцы Янова (Гайнаўскі павет), дзе я таксама скончыла пачатковую школу. Ужо тут пісала я беларускія вершы, некаторыя з іх пасылала ў «Зорку». Цяпер вучуся я ў Агульнаадукацыйным ліцэі ў Бельску, дзе атрымала прамоцыю ў трэці клас. Беларуская літаратура надалей цікавіць мяне, таму і цяпер пішу беларускія вершы.

*МОЙ СМЕХ*

*У калысцы дзяцінства*
*Смяялась я*
*радасна, шчаслівa, шчыра.*
*Не знала,*
*Што смех можа быць іншы.*
*Са смеласцю*
*З калыскі сваёй вызірнула*
*І...*
*Выпала на свет вялікі,*
*Туды,*
*Дзе смутак туманам сцелецца,*
*Чэрнь вабіць жаласць,*
*А бель толькі надзею.*
*І калі смутак*
*Падаў мне кроплямі ў сэрца,*
*Я плакала*
*І...*
*Смяялась*
*Голасна,*
*гучна,*
*Каб заглушыць боль сэрца.*
*Смяялась няшчыра,*
*І забыла*

*Пра смех мой шчаслівы ў калысцы.*



*ЖНЯЯ*

*Як жняя на пастаці стала —*
*Серп маланкаю бліснуў,*
*Загаварыла жыта.*
*Як жняя на пастаці стала,*
*Цэлы загон снапамі*
*Пакрыўся.*
*Як жняя на пастаці стала —*
*Серп маланкаю бліснуў...*

Уладзімір Гайдук



**МАР'Я СЕМЯНЮК**

Нарадзілася я 22 кастрычніка 1954 г. у Махнатым на Гайнаўшчыне. Тут закончыла пачатковую школу і паступіла ў Бельскі беларускі ліцэй. Цяпер з'яўляюся вучаніцай трэцяга класа. Вельмі люблю беларускую мову. На гэтай мове пішу вершы і апавяданні. Ад лютага г.г. выступіла як карэспандэнт на старонках «Нівы» пад псеўданімам «Алеся» (спачатку «Янка»).

* * *

*І гары ж ты агеньчык чырвоны,*
*Асвятляй і цяпло нам давай.*
*А прыдзецца, у сэрцах мільёнаў*
*Разгарыся пламеннем як май.*

*У людской ты душы разгараеш*
*І зноў гаснеш... А часам і не.*
*Тады ў думках існуе заўсёды,*
*Хто ўнутры цябе сам разгарне.*

*І не гасні ж у нас ты ніколі,*
*Бо ж не трэба, каб ты пагасаў.*
*Трэба шчасця і радасці болей...*
*Ды палай ты, заўсёды палай.*

# ТРЫБУНА чытачоў

## ПАЧАЎ ХАДЗІЦЬ

Нядаўна паміж Бельскам і Дубічамі пачаў хадзіць аўтобус. Курсуе ён два разы ў дзень: зранку і падвечар. Мае ён свае прыстанкі каля вёсак Рутка, Рудуты і Орля. Жыхары гэтых і навакольных вёсак задаволены: цяпер яны вельмі зручна могуць прыехаць у Бельск, і без цяжкасцей вярнуцца дамоў. Дагэтуль былі цяжкасці ехаць у гэтым напрамку.

*М. Панфілюк*

## Пазнаемімся

Убачыўшы ў «Ніве» рубрыку «Пазнаёмімся», мне захацелася змясціць у ёй і свой адрас:

Jan Biegluk
Hajnówka
ul. Wrzosowa 17

Мне 16 год. Цікаўлюся спортам. Маё хобі — філатэлістыка.




### ЛЕТНЯЯ НОЧ

Месяц у кшталце сярпа
Свеціць на зямлю без стомы.
Асветленая бляскам зямля
Блішчыць быццам вязка саломы.

Асветленыя ніклым праменнем
Стаяць збожжы, сады і дамы,
А ноч бясшынным імкненнем
Прыбліжаецца да ранняй зары.

Сядзім на лавачцы, ціха гаворым,
Углядаемся у кшталты дрэў.
Аб казачных часах мы марым,
Аб вечным шчаслівым жыцці.

Як цёпла, утульна, прыемна,
Летні вечар абнімае нас.
Заціскае аб'ём свой павольна
І здаецца ён кажа да нас:

«Вы мае дзеці малыя,
Спакойна жывеце цяпер,
Мінулі часы тыя злыя,
Калі за праўду ішлі на расстрэл».

Мы прыціхлі, задумаліcь
Над гісторыяй радзімы сваёй.
Успаміналі людзей тых, што біліcь
За шчасце краіны усёй.

Мы задумана сядзелі да дня.
Хтосьці ад часу да часу казаў:
«Хлопцы, ідзём, нам дадому пара».
Але з лаўкі ніхто не ўставаў.

Цэлая ноч так павольна прайшла,
Пачало ўжо світаць на двары.
Нам дадому збірацца пара,
Разышліcь да вячэрняй зары.

*Яўгеній Семянюк*
*Бельскі беларускі ліцэй*

### МОЙ ЗАКЛІК

Урэшце я, прыбраўшы час,
Сеў за стол пісаць ў Парнас.
Гэта добра літсуполка,
Памажы, Краўчук Міколка.
Ты таксама Дзядзька Квас,
Сам часцей пішы ў Парнас.
Як там з Подварак кароўка?
Хто зняў з яе вяроўку?
І як жыве той гаспадар,
Што ў балоце начаваў,
А вярнуўшыся дахаты,
Стаў ён бедным, не багатым.
Як вадзіў яго «Люцыпар»,
Грошы з кашальком забраў.
Сам, вярнуўшыся дахаты,
Ад жонкі качаргой дастаў.
Бо па той дарозе часта
Водзяць чэрці ўсіх людзей.
Як у чубе закрунула,
Дык ў балоце прасядзеў.

*«Ярош»*
*Гайнаўскі павет*

## Ці ведаеце, што...

...амаль 2 мільярды злотых складае вартасць грамадскіх чынаў, якія былі рэалізаваны на Беласточчыне ў мінулым годзе.

...на працягу апошніх васьмі гадоў колькасць школьнікаў на Беласточчыне зменшылася на 34 тысячы.

...зараз колькасць школ у Беластоцкім ваяводстве зменшылася на 26.

**(ця)**

## Кансультацыя ЮРЫСТА

ПЫТАННЕ: Сястра выйшла замуж яшчэ перад вайной. На гаспадарцы цэлы час працаваў брат. У 1965 г. была камасацыя і гаспадарка была запісана на брата і сястру. Ці брат мог набыць права ўласнасці зямлі праз заседжанне, (даўнасць)?

АДКАЗ: Паколькі брат карыстаўся з гаспадаркі так, як бы быў уласнікам, а сястра выйшла замуж, пражывала на іншай гаспадарцы, а спадчыны па бацьку не даходзіла, то брат мог набыць уласнасць спадчыннай гаспадаркі праз даўнасць. Не стаіць гэтаму на перашкодзе тое, што ў 1965 годзе ў часе камасацыі гаспадарка была запісана на брата і сястру. Інакш запісаць было немагчыма. Адміністрацыйныя ўлады, якія праводзілі камасацыю, былі абавязаны ўпісаць як уласнікаў усіх наследнікаў, нават тады, калі ўжо ў часе камасацыі брат быў уласнікам у выніку даўнасці. Набыццё ўласнасці праз даўнасць можа сцвердзіць толькі суд, і толькі пасля гэткага сцверджання можа быць зменены запіс у рэестры. Сам факт, што хтосьці, не будучы ўласнікам, быў упісаны ў часе камасацыі, як уласнік, не стварае для яго ніякіх правоў, а ўладальніку не перашкаджае набыць уласнасць праз даўнасць калі яе перад камасацыяй не набыў і калі па камасацыі надалей карыстаецца з зямлі самастойна.



## Сардэчныя ТАЙНЫ

*Дарагое Сэрцайка!* Мне 20 год. Жыву я з маці і братам на вёсцы. Брат мой яшчэ нежанаты. Мама мая гаворыць, што час ужо мне выходзіць замуж, бо на вёсцы дваццацігадовая дзяўчына гэта акурат добрая кандыдатка на жонку, потым выйсці замуж трудней.

Месяц таму назад паехала я ў госці да сваёй цёці, якая жыве таксама на вёсцы, але ў другім павеце. Там пазнаёмілі мяне з Янкам, якому 23 гады. Адразу дык ён мне і не спадабаўся, але потым прызвычаілася і цяпер думаю, што гэта хлапец надрэнны. Мы сустракаліся часта, а па двух тыднях Янка запрапанаваў мне ўзяць шлюб. Я была трохі тым здзіўлена, што так ужо яму спешна, але пачала над гэтым застанаўляцца. Калі сказала аб гэтым маме, яна згадзілася, а нават была задаволена, што ўжо выйду замуж. Янэк паходзіць з іншай вёскі, з суседняй вёскі цёці, таму яна яго ўвогуле не знае. Цёця мая раіць мне ўсё-такі трохі пачакаць. А я сама не ведаю, што рабіць. Парай мне, дарагое Сэрцайка, як паступіць. Не вельмі мне спешна выходзіць замуж, а па-другое — баюся, каб не астацца ў старых дзеўках. Чакаю хуткай парады.

*Ніна*
*з Сакольскага павету*

*Ніна!* Не вельмі я згаджаюся з тваёй, думкай, што дваццацігадовая дзяўчына — акурат добрая кандыдатка на жонку. Цяпер жа і на вёсцы замуж не надта спяшаюцца, бо па-першае вучацца, а па-другое няма чаго ж так спяшаць, гэта не даўнія часы, калі трэба было як найхутчэй выйсці з хаты, каб «зрабіць месца» брату, а сабе знайсці «прыстанішча», бо ж потым мо не знойдзецца такога. Янку ты сустрэла толькі месяц таму, дык што ж ты аб ім ведаеш? А калі так, дык як жа можна так хутка «вязацца» з Янкам на цэлае жыццё? А калі акажацца, што гэта памылка? Тым больш, што і сама ты не пераканана ў сваіх пачуццях да Янкі, пішаш толькі, што ён добры хлапец, а довадаў жа на гэта не маеш. Думаю, што каб акрэсліць чалавека, трэба яго лепш пазнаць. Твая цёця таксама ж не знае нічога аб Янку, таму вось яна вельмі талкова табе падказвае трохі пачакаць. Мая рада такая ж самая: пачакаць, лепш пазнаць Янку, а потым узяць шлюб. Калі Янку залежыць на табе, напэўна пачакае.

*Сэрцайка*

## ДОБРЫ МЛЫНАР

На ўскраіне Бельскага павету, над маляўнічай рэчкай Локніцай у вёсцы Кожына з даўных-даўна стаіць млын, які раней прыводзіўся ў рух сілай вады. Уласнікам яго быў Антон Астроўскі, які добра малоў. А як Антон памёр, тады за гэтую работу ўзяўся яго сын Яўген і малоў па-старому, па-бацькоўску. А калі ў вёсцы падвялі электрычны ток, тады ён гэты млын адрамантаваў і ўставіў электрарухавік і цяпер меле так, што не дараўнаюць яму бельскія млыны. Цяпер людзі навакольных вёсак яму вельмі ўдзячныя, а ён за гэта заўсёды мае многа работы. Да яго прыязджаюць людзі нават з адлеглых вёсак, бо бачаць добрую работу.

*Сталы кліент млына з вёскі Кнаразы М. К.*

## НЯСЛАЎНАЯ ХРОНІКА

■ 9.VII.72 г. Ян Скоцкі (22 гады) з Тарнопаля Гайнаўскага павету наехаў матацыклам на пераездзе каля вёскі Плянты на таварны цягнік. Пасажырка матацыкла Бажэна Скопэк (14 год) была патурбавана і трапіла ў шпіталь. Матацыкліст уцёк.

■ 12.VII. 72 г. на шашы каля вёскі Бабікі Сакольскага павету матацыкліст Уладзіслаў Малеса (23 гады) са Слоі штурхнуў выйшаўшую раптам на вуліцу, Надзею Тур. У выніку ў пацярпеўшай зламаная нага.

■ 13.VII. 72 г. на дарозе Гайнаўка—Белавежа Антон Болтрык (36 год) з Гайнаўкі, едучы матацыклам, з'ехаў убок і ўдарыў у тэлефонны слуп. Патурбаваны апынуўся ў шпіталі.

## У ВОЛЬЦЫ НУРЭЦКАЙ ПА 20-ЦІ ГАДАХ

У гэтым годзе сельгаскааператыў у Вольцы Нурэцкай Сямяціцкага павету адзначае 20-ую гадавіну сваёй дзейнасці. З гэтай нагоды наведалі мы гэтую вёску і правялі гутарку з старшынёй кааператыва Хведарам Пытлем.

У кааператыве 39 сем'яў, з якіх 90 асоб з'яўляецца членамі калектыўнай гаспадаркі. Гэта гаспадарка з кожным годам умацоўваецца, а яе члены дабіваюцца значных даходаў. Кааператыўшчыкі з Волькі Нурэцкай гаспадараць на 517 гектарах зямлі і пашы. Рацыянальна выкарыстоўваюць яны кожны метр грунту. У гэтым годзе з 68 гектараў збяруць жыта (30 гектараў насеннага), з 40 гектараў аўса, з 25 гектараў белага лубіну і з 14 гектараў бульбы.

У кааператыве багатая кармавая база: 119 гектараў добра загаспадараванай пашы. Кааператыўшчыкі нацэліліся на гадоўлю. З увагі на багатыя пашы — напрамак правільны. Цяпер гадуюць яны 96 штук кароў, звыш 60 штук свіней, а таксама шмат птушкі. Праўленне кааператыва робіць захады, каб павялічыць гадоўлю кароў і свіней.

Кааператыў мае добры трактарна-машынны парк: камбайн «Вістуля», тры снапавязалкі і чатыры трактарныя касілкі.

Тут пра кааператыўную маёмасць дбаюць як пра ўласную. Хоць у час нашай пабыўкі да асенніх работ было яшчэ шмат часу, аднак ужо рамантаваліся машыны, прызначаныя на гэты менавіта перыяд.

Ёсць тут і добрыя інвестыцыйныя планы, хоць у гэтай галіне ёсць шмат цяжкасцей. Інвестыцыйны план прадбачваў пабудову ў гэтым годзе збожжава-кармавога магазіна. На прычыне адсутнасці фінансавых сродкаў пабудова дагэтуль не пачалася. Цяпер знайшоўся фонд, але з апрацаваннем плана не найлепш. Надта ж пратэрміноўваецца апрацаванне тэхнічнай дакументацыі. Дагэтуляшнія будынкі вельмі малыя, а некаторыя з іх зусім не падыходзяць да патрабаванняў сучаснай гаспадаркі. Таму ў 1973 годзе плануецца пабудова хлеўні на 90 свінаматак і тучарні на 600 штук. У 1974 годзе пабудаваны будзе адміністрацыйны будынак, у якім, між іншым, будзе і святліца.

*Старшыня сельгаскааператыва ў Вольцы Нурэцкай Хведар Пытэль.*

Далейшая актывізацыя кааператыва будзе залежаць ад працы ўсяго калектыву. Мы ўпэўнены, што будзе яна, як і дагэтуль, творчай і карыснай для вёскі і дзяржавы.

*М. Гогель*



## НАША ПОШТА

*Аня Б., Махнатае.* Інфармацыя добрая, але ананімная. Трэба пісьмы ў рэдакцыю падпісваць імем і прозвішчам. Калі не хочаце, каб ваша прозвішча было надрукавана, дык напішыце аб гэтым, зробім так, як пажадаеце.

*М. Панфілюк, Дубічы Царкоўныя.* Не хвалюйцеся, ужо хутка вашага «Манаха» надрукуем. А «Вырадак» хоць гэта і праўдзівае здарэнне, але, як зрэшты і вы самі сцвярджаеце, не вельмі падыходзіць.

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**
„Kalejdoskop" (angl.), 8—9. „Kajtek i siedmiogłowy smok" (węgierski), 10—11. „Seksolatki" (polski), 12—13.

**Нараўка**
„Kto śpiewa nie grzeszy" (węgierski), „Na torze czeka morderca" (czeski), 9—13.

**Нарва**
„Bicz Boży" (polski), „Cisza! Na sali operacja" (radz.), 9—13.

**Чыжы**
„Cyrk straceńców" (USA), „I znów skaczę przez kałużę" (czeski), 9—13.

**Дубічы Царкоўныя**
„Miraż" (USA), „Siedem dziewcząt kaprala Zbrujewa" (radz.), 9—13.

**Арэшкава**
„Cytadela odpowie" (bułg.), „Przepustka na ląd" (radz.), 12—13.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Film o miłości" (węgierski), „Kapitan Korda" (czeski), 9—13.

**Орля**
„Godziny nadziei" (polski), „Spojrzenie na wrzesień" (polski), 9—13.

**Райск**
„Pożądanie zwane Anadą" (czeski), „Ambicja" (radz.), 9—13.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Nie wspominać o przyczynie śmierci" (jugosł.), 8—9. „Nie drażnić cioci Leontyny" (franc.), 10—11. „Płomień nad Adriatykiem" (NRD), 12—13.

**Шудзялава**
„Lala" (włoski), „Dom na rozstajach" (radz.), 9—13.

**Янаў**
„Trup w każdej szafie" (czeski), 9—13.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**
„W królewstwie ducha gór" (jugosł.), 8—9. „Rycerz szklanego ekranu" (węgierski), 10—11. „Zbrodnia i kara" (radz.), 12—13.

**Мельнік**
„Molo" (polski), 8—9. „Dożyjmy do poniedziałku" (włoski), 10—11. „Queimada" (włoski), 12—13.

**Мілейчыцы**
„Płomień nad Adriatykiem" (NRD), 8—9. „Najlepsza kobieta mojego życia" (czeski), 10—11. „Życie rodzinne" (polski), 12—13.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**
„Seksolatki" (polski), 8—9. „Ostatni świadek" (polski), 10—11.

**Новы Двор**
„Uwaga żółw" (angl.), „Decyzja" (polski), 9—13.

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO 1-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23.

**BZGraf. Nakład 5.231 T-3**

З народнага

## БАГАЦЦЕ І ЦЫМБАЛЫ

Даўным-даўно жылі-былі па суседству стрыечныя браты. Аднаго звалі Антось, другога — Савось. Антось жыў у беднай сям'і. А бацькі Савося былі вельмі багатыя і вельмі скупыя. Як толькі Антось пасталеў, бацька сабраў апошнія грошы і купіў на кірмашы сыну новенькія цымбалы. А калі падрос Савось, бацька сабраў парабкаў і загадаў абгарадзіць высокім плотам два гектары саду. I сказаў тады бацька Савосю:

— Вось твой сад, будзеш над ім гаспадаром. А вырасцеш вялікі, я загадаю пабудаваць новы дом для цябе...

Антось навучыўся іграць на цымбалах. Сваім мастацтвам бедны хлапчук захапляў усіх суседзяў. Хутка чуткі пра гэта разнесліся далёка-далёка. Выйдзе, бывала, Антось, сядзе пад беленькай бярозаю над рэчкаю, пакладзе на калені цымбалы ды як зайграе!

— Ай і малайчына твой сын! Вялікі музыка будзе, — казалі суседзі бацьку Антося.

Потым бацька навучыў Антося майстраваць прыгожую мэблю. А ў садзе Савося спелі чырванабокія яблыкі, буйныя вішні ды слівы. Савось нічому не навучыўся, бо ў гаспадарцы ўсё рабілі парабкі...

Бацька прывучыў Савося муштраваць беднякоў і ашукваць іх пры выплаце грошай за працу. Антось жа цэлымі днямі майстраваў шафы, крэслы ды сталы, а вечарам весяліў людзей музыкай.

Ішлі гады. Антось ішоў каля сада Савося. I так захацеў хлопец яблык пакаштаваць, што не вытрымаў і папрасіў у стрыечнага брата некалькі яблыкаў.

— Аддай мне свае цымбалы, тады я насыплю табе яблыкаў, колькі зможаш панесці, — сказаў Савось.

— Згодзен, — сказаў Антось і аддаў Савосю свае цымбалы.

Спрабаваў той вучыцца іграць, але так і не навучыўся. Не было ў Савося ні музычнага слыху, ні таленту, ні працавітасці. Раззлаваўся Савось і паламаў цымбалы.

Антось змайстраваў сабе новыя цымбалы. Вялікая слава пайшла пра цудоўнага музыканта Антося. Нават сам Савось папрасіў яго пайграць на сваім вяселлі.

Пасля здарылася бяда. Аднойчы зімою лютавалі маразы вялікія, і сад Савося вымерз. Не стала багацця ў Савося. А памагчы няма каму — бацькі ўжо не было ў жывых... I прыйшоў тады Савось да Антося пазычыць грошай. Антось не адмовіў і пазычыў.

Бедна стаў жыць Савось, бо нічога рабіць не навучыўся, як толькі кіраваць парабкамі. I вось тады спытаў у Савося Антось:

— Ну як? Лепш быць багатым і скупым, ці мець рамяство ў руках?

— Не, лепш мець у жыцці рамяство і талент, — згадзіўся Савось.

*Запісаў Г. Скавародка*

*Строгі кантроль*

# НІЎКА

## Галаваломка

Колькі шасцівугольнікаў у гэтай фігуры?

*Адказ на заданне з папярэдняга нумара:*

### РОЗНЫ ПАДЫХОД

Вожык да каня:

— Слабая ў цябе натура — кожны хамут адзене, усіх возіш. Хай паспрабуюць сесці на мяне!

### ПАРАЎНАЎ

Сабака сказаў кату:

— За што табе толькі есць даюць?

— А табе?

— Параўнаў! Ты ж усю ноч ні разу не гаўкнуў.

*Р. Бохан*

### ПЕРАЛОМ

Машына хуткай дапамогі прывезла пацыента са зламанай нагой. Доктар аглядае перадом і пытае:

— Як гэта здарылася?

— У час гульні.

— Вы гулялі ў футбол?

— Не. У карты.

— У карты?

— Так. I мой партнёр падаваў мне знакі пад сталом.

### З ЗАПІСНОЙ КНІЖКІ

У ахвяры былі выяўлены чатыры раны. Дзве з іх смяротныя, дзве іншыя, на шчасце, не.

### ЗНАЁМСТВЫ

— Ведаў я чалавека, які кожны раз, памачыўшы пяро, закрываў чарніліцу, каб атрамант не выпарыўся.

— Гэта яшчэ нічога. Вось я ведаў чалавека, дык ён на ноч спыняў гадзіннік, каб ён не зношваўся.

— Усё гэта глупства. Вось я быў знаёмы з адным, дык ён зусім перастаў чытаць, лічачы, што ад гэтага надта ж моцна зношваюцца акуляры.

### ПРАЛЬНЯ

У вітрыне пральні вісіць велізарны плакат: «Сціраем за 24 гадзіны!»

Прыёмшчыца, прыняўшы ў кліента бялізну, гаворыць:

— Будзе гатова ў суботу.

— Чаму ў суботу? Дык сёння серада, а ў вас напісана...

— Усё правільна. Мы сціраем за 24 гадзіны, але працуем па восем гадзін. У суботу раніцай можаце атрымаць.

### ПЫТАННЕ

Сустракаюцца Міхась і Кастусь.

— У цябе такі заклапочаны выгляд. Якая-небудзь непрыемнасць?

— Так, Міхась. Учора мы моцна выпілі ў адной кампаніі. Калі вечарынка закончылася, я адвёў Васіля дамоў і так ціха палажыў яго ў пасцель, што яго жонка нічога не прыкмеціла.

— Ну і што ж? Гэта вельмі добра з твайго боку.

— Так, але сёння я даведаўся, што Васіль яшчэ пазаўчора выехаў у водпуск.

### У ЗООМАГАЗІНЕ

У зоамагазін убягае сярдзіты пакупнік і крычыць:

— Глядзіце, што вы мне ўперлі! Учора я купіў у вас гэту співаючую птушку, а яна, аказваецца, з перабітай ножкай!

— Ну і што такога? — адказвае прадаўшчык. — Вы ж куплялі ў нас пявунню, а не балерыну!

### ДАМЫ

Адна дама гаворыць другой:

— Нам разам з сястрой шэсцьдзесят гадоў на дваіх.

— Божа мой, — адказвае яе сяброўка, — і вы не баіцеся пакідаць такую маленькую сястру дома?

*Зараз ты ўбачыш незабыўны скачок.*

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Галіны Язык аў з Гарадка, Галіны і Іры Скепка з Забродаў, Беластоцкага павету і Олі Антанюк з Малешаў, Бельскага павету змяшчаем песню п.з.

### W DROGĘ

**Słowa: S. Halny, J. Kondratowicz**
**Muzyka: Seweryn Krajewski**

1.

W drogę! Żegnajcie chłopcy!
W drogę! Już na mnie czas.
Dokąd poniosą oczy,
w drogę...

W drogę z bagażem zdarzeń,
chociaż w kieszeni wiatr.
Może wspomnicie czasem,
może...

Refren:

Do przejścia mam tak wiele lat
drogami, które ledwie znam.
Nim wpiszę je po stronie strat,
swoją prawdę chciałbym znaleźć sam.

2.

W drogę, bez drogowskazów,
w drogę, po własny los!
„Kłamiesz" powiedzieć światu,
w drogę...

Do przejścia mam tak wiele lat
drogami, które ledwie znam,
Nim wpiszę je po stronie strat,
swoją prawdę chciałbym znaleźć sam.

W drogę! Żegnajcie chłopcy!
W drogę! Już na mnie czas.
Słońce dla wszystkich wschodzi,
w drogę!

### ЦЭЛАЕ ЯЙКА

Да габраўца прыйшоў госць. Гаспадыня зварыла яйка на пачастунак. Маленькі ўнучак прагнымі вачыма ўтаропіўся ў гэта яйка.

— Не глядзі так! — сказала гаспадыня. — Дзядзька не буйвал, каб з'есці ўсё яйка. Пакіне і табе.

### У ШКОЛЕ

Настаўнік: — Сказ «конь бяжыць» пераўтвары ў пытальны сказ.

Пятрук: — Ці бяжыць конь?

Настаўнік: — Правільна. Цяпер пераўтвары пытанне ў загадны сказ.

Пятрук: — Но-о-о!

# Курёзы

### РЭКОРД У «ЖЫВАПІСЕ».

Амерыканскі мастак Дж. Дэвіс наўрад ці быў бы да гэтага часу вядомы ў ЗША, але цяпер да яго прыйшла слава — ён устанавіў «рэкорд», напісаўшы самую вялікую карціну ў свеце. У якасці «палатна» агульнай плошчай у 3.500 квадратных метраў ён выкарыстаў стаянку для аўтамашын ля музея выяўленчых мастацтваў у горадзе Філадэльфія. На карціну, якая з'яўляецца наборам каляровых палос, пайшло 2000 літраў фарбы. Мастак запэўнівае, што яго карціна захаваецца прынамсі пяць гадоў, нягледзячы на тое, што стаянку па-ранейшаму выкарыстоўваюць шматлікія аўтамашыны.

### НЕ СПЯШАЙСЯ НА МОГІЛКІ

Па распараджэнню мэрыі Тулона на дарогах, што вядуць у горад, устаноўлены вялікія шчыты з наступным папярэджаннем: «Вадзіцель! Заязджаючы ў горад з хуткасцю 60 кіламетраў у гадзіну, ты можаш пазнаёміцца з нашай новай турмой. Калі хуткасць будзе 80 кіламетраў у гадзіну — трапіш у адну з нашых бальніц. Калі ж паедзеш яшчэ хутчэй — для цябе будзе зарэзервавана месца на могілках».

### РЭДКІ ВЫВАДАК

Румынскія паляўнічыя Т. Брэшвелян і С. Падару знайшлі рэдкі вывадак ваўчанят у павеце Бістрыца-Нэсэуд. Ва ўсіх ваўчанят пярэднія лапкі і грудзі белай шэрсці, што вельмі рэдка назіраецца ў ваўкоў. Ваўчанят кормяць з сосак, яны ўзяты пад кантроль спецыялістаў. Цікава, што пасля адстрэлу ваўчыцы, паляўнічыя знайшлі ваўчанят у глыбокай барсуковай нары. Каб дабрацца да вывадка, ім давялося прарыць сапраўдны тунель.

# Смяюцца з намі

Робячы з мухі слана, не забывай, што ён можа цябе растаптаць.

© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020